Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 25 (77) | Вільня, 5-га кастрычніка 1935 г. | Год 3-ці.

## Мэмэль.

Мэмэль (палітоўску Клайпэда) быў у 13 стагодзьдзі літоўскай марской крэпасьцю, якая ўвесь час вяла ўпорную барацьбу з тэўтонскім ордэнам. Аднак нямецкая сіла перамагла. У 19 ст. працэс германізацыі быў ужо скончаны і літоўскі назоў Клайпэда перастаў на карце існаваць. Усё-ж-такі літоўскасьць ня зусім была выкаранена. Атрымаўшы свабоду, яна ізноў пачала разьвівацца і па афіцыяльным дадзеным у 1925 годзе 59% насельніцтва мэмэльскай вобласьці карысталася ўжо літоўскім языком.

Афіцыяльна назоў Клайпэда ўсплыў на паверхню жыцьця пасьля сусьветнай вайны, калі Мэмэль апынуўся пад протэктаратам Літвы. Бралася тут пад увагу тое, каб маладая дзяржава—Літва мела нараўне з іншымі дзяржавамі доступ да мора. Атрымоўваючы Мэмэль пад протэктарат, Літва была ў сваіх правох агранічана, а забавязаньні яе былі дакладна ў мэмэльскім статуце абгавораны.

І вось сяньня гэты невялічкіласкутох зямлі, які мае выбарнае права ў свой асобны сойм пры ўсяго 170.000 выбаршчыкаў, стаўся прадметам вострага конфлікту.

Чаму? Няўжо-ж Нямеччына залежыць толькі на прылучэньні гэтага правінцыяльнага гарадку, каб такім чынам павялічыць свой абшар?

Ясна, што не. Уся па-вэрсальская карта Эўропы так уложана, што яна дае шмат повадаў да розных завастрэньняў. І калі Нямеччына перад вачыма ўсяго сьвету з такім нязвычайным упорствам дамагаецца абароны сваіх інтарэсаў у малым Мэмэлі, калі ўся прэса перапоўнена гэнай справай, якая заняла ня мала часу і дыплёматам у Жэнэве,—то гэта ўсё дзеля таго, што з малой Клайпэдай хаваюцца важныя пытаньні нямецкай палітыкі: савецкая пагроза і справа незалежнасьці Прыбалтыкі. Відаць праз Мэмэль ідуць імкненьні нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны пашырыць сваю дзяржаву на ўсход з аднаго боку, з другога — процідзеяньне Саветаў, што ў выніку можа давесьці да збройнай сустрэчы „чырвонага" і „буржуазнага" сьвету.

Вось чаму мэмэльская справа нарабіла столькі гуку, а выбары ў мэмэльскі сойм гэтак зацікавілі ўсіх. Адбыліся яны 29 верасьня. Дагэтуль вынікі іх яшчэ нам няведамыя, бо літоўскі ўрад забараніў прэсе зьмяшчаць якія небудзь весткі аб выбарах. Мае права гэта рабіць толькі Літоўскае Тэлеграфічнае Агентства. Кенігсбэргскія газэты падчырківаюць сур'ёзныя адносіны да выбараў нямецкага насельніцтва. Усяго прыймала ўчасьце ў галасаваньні ў сярэднім 95%, а ў шмат якіх мясцовасьцях лічба галасуючых складала ўсе 100%. Па словах нямецкіх газэтаў самія літоўцы лічаць дзень выбараў «чорным» днём літоўскай палітыкі на мэмэльскай тэрыторыі.

Ня маючы пад рукой дадзеных, цяжка казаць, як справа прадстаўляецца пасьля выбараў, якія можна было-б назваць нямецкай дэмонстрацыяй, бо ўся прэса цьвердзіць, што перавага нямецкая была ведама наперад. Можна аднак ужо цяпер дапусьціць, што ў прыпадку нямецкай перамогі Мэмэль праз нейкі час хіба аддзеліцца ад Літвы і абвесьціць сябе «вольным горадам», або адкрыта далучыцца да Нямеччыны. Калі-ж выбары не дадуць немцам рашучай перавагі то хто ведае, ці Гітлер ня зьдзейсьніць сваю пагрозу і не сарве рэзультаты выбараў шляхам пучу.

Пры сяньняшніх міжнародных умовах гэта было-б зусім магчыма да правдзеньня ў жыцьцё.

Што-ж скажуць на ўсё гэта Англія, Італія і Францыя — гаранты мэмэльскага статуту. Аб Англіі можна сказаць, што яна выказвае малое зацікаўленьне мэмэльскай справай, будучы занятай, як і Італія абісінскім конфліктам. Ды ўрэшце ангельцы ніколі не сымпатызавалі бальшавіком, каб ісьці на падмогу дзяржаве,—ня маючы ў гэтым ніякіх сваіх інтарэсаў, — якая ў блізкіх адносінах з СССР. Такім чынам астаецца толькі Францыя сучасная саюзьніца Саветаў і таму цікава, якое яна зойме становішча адносна Нямеччыны і Літвы.

*М.*

---



## Вайна ў Афрыцы пачалася.

З Жэнэвы паведамляюць, што ў колах Лігі Нацый пануе вялікае замяшаньне. Выясьнілася, што вайна ў Афрыцы пачалася без абвешчаньня. Італьянскія войскі пачалі дзеяньні, не папярэдзіўшы аб гэтым ані абісінскага імпэратара, ані Лігу Нацый. Агенства Гаваса паведамляе, **што ваенныя дзеяньні пачаліся раніцай 3-га кастрычніка бомбардоўкай Адуі, Адзіграту і іншых мясцовасьцяў.** Сярод мірнага насельніцтва многа раненых. **Баі ў Огадзене ўзмацняюцца. У Абісініі ў гэты-ж дзень была абвешчана агульная мобілізацыя.**

У сувязі з гэтым на суботу вызначана экстэрнае паседжаньне Рады Лігі Нацый.

## Санкцыі процiў Італіі

Уся ангельская прэса аднагалосна піша, што заданьнем кабінэта міністраў зьяўляецца разгляд пытаньня аб забароне вывазу аружжа і амуніцыі ў Італію і Абісінію ў тым прыпадку, калі Ліга Нацый акрэсьліць нападаючую старану. Апрача таго, урад павінен вырашыць справу аб безадкладным зьдейсьненьні эканамічных санкцый у адношаньні да нападаючага, а таксама пытаньне аб супрацоўніцтве з вялікшымі дзяржавамі, якія не ўваходзяць у Лігу Нацый.

У ангельскіх дзяржаўных колах падчырківаецца, што ўсе высілкі выпаўненьня мераў, прадугледжаных у § 11 пакту Лігі і скірованых да недапушчэньня да вайны, акаваліся дарэмнымі. Высілкі мін. Ідэна ў гэтым кірунку ня сустрэлі аднагалоснага падтрыманьня сяброў Лігі Нацый, а бяз гэткай салідарнасьці пастанаўленьні Лігі ня мелі-б абавязуючай сілы. Калі Італія пачне выпаўняць свой плян, то яна аўтоматычна станецца нападаючай стараной. Тады кожны сябра Лігі Нацый, на аснове 16 § пакту Лігі павінен будзе прыняць учасьце у гаспадарчых санкцыях.

Санкцыі гэтыя прадугледжваюць:

1) Спыненьне ўсякіх гандлёвых і фінансавых зносінаў з дзяржавай, нарушаючай пакт Лігі; 2) Спыненьне ўсякага абмену між грамадзянамі дзяржаваў — сяброў Лігі і дзяржавай, нарушаючай пакт і 3) забарона гандлёвых і фінансавых зносінаў між грамадзянамі дзяржавы, якая нарушыла пакт і другіх дзяржаваў у тым ліку і тых якія не ўваходзяць у склад Лігі Нацый.

Калі насьпее час правядзеньня ў жыцьцё гэтых санкцый, ангельскі ўрад запрапануе Лізе Нацый прыняць меры, каб не спаткацца з процідзеяньнем з боку дзяржаваў, якія не належаць да Лігі Нацый. Ясна што ангельскі ўрад мае тут на ўвазе злучаныя Штаты і Нямеччыну.

## Марскія сілы Англіі і Італіі.

„Пці Журналь" і некаторыя другія газэты друкуюць наступныя падлічэньні марскіх сілаў Англіі і Італіі. Дадзеныя гэтыя ўзяты з афіцыяльных крыніцаў:

| | Англія кольк тон | Італія кольк. тон. |
|---|---|---|
| Дрэдноўтаў | 15(474.150) | 4 (86.532) |
| Авіаматак | 6(115.530) | 0 |
| Новых крэйсэраў | 35(174.930) | 14(107.083) |
| Старых крэйсэраў | 16( 75.656) | 11( 56.027) |
| Новых мінаносцаў | 60( 81 299) | 52( 63.475) |
| Старых „ | 109(116.785) | 36( 28.013) |
| Новых падв. лодак | 31( 45.624) | 48( 37.550) |
| Старых „ „ | 21( 12.015) | 21( 8.170) |

Такім чынам, Англія мае аграмадную перавагу ўва ўсіх катэгорыях караблёў, за выняткам падводных лодак. Праўда, вялікшая часьць брытанскіх крэйсэраў знаходзіцца на далёкіх морах, але ў прыпадку патрэбы, яны могуць быць таксама скіраваны процiў Італіі.

З другой стараны, італьянскі паветраны флёт і лічбова, і, быць можа, якасна перавышае ангельскі.

## Вялізарная фашыстоўск. маніфэстацыя

Паводле вестак з Рыму, 2-га гэтага кастрычніка а гадзіне 15.30 пад гукі сырэнаў і касьцельных званоў пачалася вялізарная маніфэстацыя фашыстаў. Па ўсёй Італіі вывешаны дзяржаўныя сьцягі. А гадз, 18.30 Мусоліні сказаў вялікую прамову з балкону вэнэцкага палацу. Прамова трансмітавалася праз радыё на ўсю Італію. У сваёй прамове Мусоліні выказаў, паміж іншым, што ён перад абліччам усяго італьянскага народу яшчэ раз бярэ на сябе сьвятое абавязаньне зрабіць усё, каб колёніяльны конфлікт ня замяніўся ў конфлікт эўрапэйскі.

Натаўп у некалькі сотняў тысяч прыняў прамову дыктатара крыкамі энтузіязму.

## Японія гатовіцца да нападу на СССР.

Корэспондэнт „Івнінг Стандарт" паведамляе з Токіо, што Нанкін-савецкая згода зрабіла моцнае ўражаньне ў Японіі. Апазыцыйныя японскія колы абвінавачваюць японскіх дыплёматаў у тым, што яны толькі гутараць аб зблізкэньні Кітая з Японіяй, у той час як Саветы ўстанаўліваюць кантакт з Кітаем у сапраўднасьці і нават паддаюць свайму ўплыву ўвесь кітайскі Туркестан, каторы па абшару ў 4 разы вялікшы ад Англіі.

Апазыцыя дамагаецца безадкладнага выступленьня процiў СССР ня толькі з мэтаю захопу прыбярэжжа Ціхага акеану, але і дзеля таго, каб нанясьці прэстыжу СССР у Азіі рашучы і канчальні ўдар.

У ваенных колах уважаюць аднак, што выступленьне Японіі ў сучасны момант процiў СССР ня зусім своечаснае.

Кіраўнікі ваеннай японскай палітыкі намераны чакаць таго моманту, калі ў Эўропе створыцца палітычная кон'юнктура, больш спрыяючая для нападу на СССР з Усходу. Інакш кажучы, Японія намерана чакаць, пакуль у Эўропе пачнецца вайна.

## Эканамічны бок Абісініі.

Што пабуджае італьянцаў да імкненьня заўладаць Абісініяй?

Перш за ўсё тое, што гэты самабытны край ёсьць вельмі добрым об'ектам для колёнізацыі і мае шмат нявыкарыстаных натуральных багацьцяў.

Абісінія займае ў два разы большы абшар як Францыя, або Нямеччына,—больш як 1.100.000 квадратных кілёмэтраў, а жыхароў мае 10—12 мільёнаў. Клімат Абісініі вельмі рознародны: там магчыма прадукцыя хіба што ўсялякага збожжа і прамысловых расьлін, асабліва бавоўны. Абісінія дае цяпер найлепшы на сьвеце сорт кавы, якая, у некаторых месцах гэтай краіны, расьце ў дзікім стане. Жывёлагадоўля цьвіце там невядома з якіх часоў, а прадукты яе, пераважна скуры, зьяўляюцца галоўным прадметам вывазу за граніцу. З багацьцяў-мінэральных Абісінія, як быццам, мае: плятыну, золата, вугаль, жалезную руду, медзь, серку, магнэзію, соль і газу.

Уласнай прамысловасьці зусім няма ў Абісініі. Але зразумелай зусім прамысловай экспансіі заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў абісінцы баяцца, байкатуюць усе спробы эўрапэйскіх капіталістых і прамыслоўцаў закладаць там свае прадпрыемствы. Абісінскі народ і яго ўлады да гэткіх спробаў адносяцца вельмі падазронна, баючыся, каб эўрапэйцы, цераз свае прадпрыемствы, не пралажылі сабе шляху да палітычных уплываў, якія маглі-б давясьці да пазбаўленьня абісінцаў іх незалежнасьці. Калі дадаць да гэтага, што шляхі камунікацыі ў Абісініі вельмі благія, дык прычыны дасюлешніх няўдачаў эўрапэйскай прадпрыемчасьці паасобных капіталістых у гэтым краі зробяцца зусім яснымі.

Так першыя піонэры эксплёатацыі абісінскіх натуральных багацьцяў—Ангельцы залажылі концэрн з мэтаю пакрыць край цэлым радам прадпрыемстваў. Гэта скончылася стратаю больш як 500.000 фунтаў штэрлінгаў (каля 2.500.000 даляраў). Бэльгійцы ня лепш выйшлі на плянтацыях бавоўны і кавы ды сьпіртавым манаполі, Амэрыканцы — на электрыфікацыйных і гідраўлічных концэсіях, Японцы — на концэсіі па вытвару бавоўны, а Італьянцы — на будаваньні вялікіх млыноў.

Усё гэта прывяло эўрапэйцаў да вываду, што Абісінія можа зрабіцца добрым месцам для прамысловай экспансіі толькі пасьля паступеннага адчыненьня яе цераз будаваньне дарог і ўвядзеньне новачаснай адміністрацыі. Але абісінцы ані ня хочуць мець нават сучасных эўрапэйскіх дарог, лічачы, што дарогі гэткія памогуць эўрапэйцам заўладаць зусім іх краем. І дзеля гэтага даюць концэсіі на свае багацьці чужынцам. Найбольш нядаўнымі концэсіямі, данымі ў 1933 і ў сёлетнім годзе, былі: японская концэсія на баваўняныя абшары і нэфцяная концэсія Рыккэтта. Абедзьве гэтыя концэсіі, паколькі справы датычаць Абісініі, мелі хутчэй палітычны, як гаспадарчы характар. Японская концэсія мела мэтаю выклікаць у Японіі зацікаўленасьць абісінскімі справамі, каб можна было проціставіць японскія ўплывы цікаваньню на гэты абшар некаторых іншых дзяржаваў. Дык дзеля гэтага концэсія выклікала пратэсты з розных бакоў і аканчальна не дайшла да рэзультату. З тых самых, больш-менш, прычынаў была зьліквідована і нэфцяная концэсія Рыккетта, дадзеная дзеля зацікаўленьня ангельскага і амэрыканскага ўрадаў у італьянска-абісінскім конфлікце.

Застаецца яшчэ адна найважнейшая концэсія, якая прадстаўляе, як для Абісініі, так і для ангельска-эгіпэцкага Судану ды Эгіпту, а разам, значыцца, і для Велікабрытаніі, вялізнае гаспадарчае і палітычнае значэньне. Гэта—концэсія на будову тамы пры ўтоку возера Тсана. Концэсія на гэту вялізарную справу дадзена была ў 1927 годзе аднаму амэрыканскаму таварыству. Паводле проекту, тама мела затрымаць воды Сіняга Нілу, які дае Нілу ў яго ніжнім бегу каля 75 процантаў водаў у часе паводкі ды каля 25 проц. у час нармальны, а гэтым самым абводніць у самой Абісініі шырокія абшары дзеля разводу бавоўны. Тама гэтая мела пазбавіць Судан і Эгіпэт часьці водаў Сіняга Нілу. Дзеля таго, што ўвесь дабрабыт, а ў некаторай меры і само існаваньне гэтых абодвух краёў залежыць ад нільскіх водаў, концэсія сустрэла спраціўленьне з боку Эгіпту ды Англіі і была ўзята назад. Аднак-жа Эгіпцяне і Ангельцы маюць замер самі атрымаць гэту концэсію. Яшчэ нядаўна эгіпэцкі ўрад пастанавіў стварыць таварыства будовы тамы з удзелам у ім Абісініі, Судану і Эгіпту. Англія ўжо папярэдзіла, што ў выпадку італа-абісінскай вайны і паўстаньня пагрозы наезду італьянскіх войскаў на раён возера Тсана,— ангельска-эгіпэцкія войскі зараз-жа займуць гэты раён. З гэтага можна было-б судзіць, што Эгіпэт і Англія ня маюць ніякага зацікаўленьня ў самай будове тамы, ім хутчэй ідзе аб тое, каб, узяўшы яе ў свае рукі, перашкодзіць іншым дзяржавам зрэалізаваць яе.

Адзінаю концэсіяю, якая ідзе добра на тэрыторыі Абісініі, ёсьць чугунка Джібуті — Адзіс-Абэба, якая абслужвае 70—80 процантаў заграгнічнага абісінскага гандлю.

У сэнсе гандлёвай экспансіі на абісінскім рынку выпераджае ўсе зах.-эўропэйскія дзяржавы Японія, якая вывезла туды ў 1934 г. тавараў на 56 мільёнаў французскіх франкаў, або больш, як усе іншыя краі разам. Гэта тлумачыцца ня толькі таннасьцю японскіх вырабаў, але і тым, што сама Абісінія протэгуе японскі гандаль і што пасярэднікамі ў гэтым абмене ёсьць Індусы і Арабы, каторыя маюць у Абісініі ня толькі сымпатыю, а і шырокія старыя адносіны.

Абісінія не вядзе гандлёвай статыстыкі і яе абароты з заграніцай дакладна невядомыя, апрача тавараў, дастаўляемых праз порт Джібуті. Аднак-жа Абісінія гандлюе з іншымі эўропэйскімі калёніямі—з Італьянскім Сомалі, з Эрытрэяй, з Брытанскім Сомалі, з Кеньяй і Суданам. Прыпушчаюць, што гадавы ўвоз у Абісінію даходзіць да якіх 100 мільёнаў франкаў; вываз Абісініі ёсьць большым блізка што на 50 проц. Першае месца па ўвозе займае Японія, за ёю ідзе Брытанская Індыя, Францыя з калёніямі, Эгіпэт, Італія, Злучаныя Штаты і Англія. Увозяцца: баваўняныя тканіны і пража, соль, нафта, мыла, шкло, кухоннае судзьдзё, цукар, напіткі, самаходы, зброя і г. д. А вывозіцца пераважна кава, скуры, восак, мёд, сланёвая косьць, збожа і інш.

Вакол натуральна багатай Абісініі крыжуюцца, як бачым, інтарэсы шмат якіх магутных дзяржаваў і дзеля гэтага напасьць на яе ды загарнуць толькі сабе—для італьянцаў ня так ужо і лёгка.

## Кітайска-савецкі блёк?

З Токіо паведамляюць, што быццам у апошнія часы сярод нанкінскіх ўладаў павялічваецца ўплыў савэтафільскай групы. Група гэтая дамагаецца таго, каб нанкінскі ўрад заапрабаваў актыўнасьць Саветаў ў Сіньцзянскай правінцыі (кітайскі Туркестан) поўнасьцю.

Гэтае імкненьне тлумачыцца ўжо тым фактам, што ваенны аташэ пры кітайскім пасольстве ў Маскве Го Вень у цяперашні момант дасьледваў палажэньне ў Сіньцзянскай правінцыі, а пасол у Маскве Іен Чын-Гуй, пасьля атрыманьня дадзеных ад аташэ Го Вень, правёў адпаведныя перагаворы з урадам СССР.

Перагаворы гэтыя ўжо скончыліся і быццам Нанкін і СССР заключылі між сабой згоду.

**Пашырайце нашу газэту.**

# Як часам пішацца гісторыя.

Ужо сёмы год беларуская хадэцкая моладзь выдае ў Вільні месячнік „Шлях моладзі". Праўда, выдаўцы гэтага месячніка ня зусім трымаюцца якіх-небудзь строга-каталіцкіх ці вузка партыйных рамак і тое, што ў месячніку пішацца самой беларускай моладзьдзю (ня толькі каталіцкай), мае часамі даволі цікавы зьмест; моладзь трымаецца ідэалу беларускай незалежнасьці і працуе над нацыянальным усьведамленьнем шырокіх масаў маладой Беларусі.

Невялікая бяда, калі часам нехта з старэйшых грамадзян прыкіне ў „Шлях моладзі" і *свае два грошы* ў форме якога-небудзь бяздарнага верша.

Справа куды горшая, калі ў гэтым месячніку пішацца гісторыя. Моладзь ня піша пра наша мінулае—гэта вельмі зразумелая рэч; тут на падмогу ёй выступае аўтор з старэйшага пакаленьня. Але як выступае?

Перад намі № 10 (83) „Шляху моладзі" за верасень месяц сёлетняга году. Чытаем працяг працы *Ад. Станкевіча — „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня"*.

Кідаецца ў вочы з грунту не дакладны падзагаловак: „Менскае Беларускае Прадстаўніцтва і ідэя незалежнай Беларусі".

Беларускаму маладому чытачу падсоўваецца думка, быццам у гэтым якраз „прадстаўніцтве" і зарадзілася ідэя незалежнасьці Беларусі, бо гэтае, бач, „прадстаўніцтва" выдавала першую штодзенную газэту „Беларускі Шлях", у якой пра незалежнасьць пісалася.

Хацелася-б верыць, што аўтор (Ад. Станкевіч), стаяўшы недзе далёка ад „прадстаўніцтва", (як і ад Рады Рэспублікі, абвясьціўшай 25 сакавіка 1918 году незалежнасьць Беларусі), чэсна памыляецца і піша свой нарыс беларускага палітычнага вызваленьня бяз ніякіх благіх замераў. Аднак-жа недакладнае асьвятленьне ідэяў б'е ў вочы.

І прыходзіцца брацца за пяро ў абарону праўды. Беларуская праўда дасюль для ўсіх нас вельмі горкая, але ад гэтага яна не перастае быць праўдай. Дык і ў мінулым стараймася бачыць яе такою, якою яна была.

Праўду кажа Ад. Станкевіч, што „зараз-жа пасьля прыходу немцаў, у Менску ўтварылася Беларускае Народнае Прадстаўніцтва"...

Але варта было-б сказаць, што яно мела і нямецкі назоў — „Das Minsker Weissruthenisches Volks-Komitee", іменна „Volks-Komitee", а ня „Volksvertretung", — Камітэт а не Прадстаўніцтва.

Відаць дзеля палітыкі, нехта тут „памыляўся" і *камітэт* пераклаў на беларускую мову, як... *прадстаўніцтва*, хочучы падмяніць у вачох немцаў запраўднае прадстаўніцтва Беларускага Народу, для гэтага-ж народу, а не для немцаў, творанае самым народам— Раду першага Ўсебеларускага Зьезду і яе Выканаўчы Камітэт.

Ня гледзячы на тое, што гэты Выканаўчы Камітэт, спаўняючы волю Ўсеб. Зьезду і не чакаючы прыходу ніякіх магутных окупантаў, утварыў з сябе беларускі ўрад (Народны Сэкрэтарыят), рашуча прыступіўшы да будаваньня беларускае дзяржаўнасьці, Das Minsker Komitee — („прадстаўніцтва") старалася трымацца з боку і беларускую ўладу проста байкатаваць.

Праўда аб „прадстаўніцтве", што „складалася яно з элемэнтаў, якія ня былі ўвайшоўшы ў Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Конгрэсу і потым у Раду Бел. Народнай Рэспублікі"...

Чаму-ж яны туды ня былі ўвайшоўшы?

Кожны з 1872-х дэлегатаў, складаўшых Усеб. Зьезд, адказаў-бы на гэта вельмі проста:

Таму, што яны (як арганізованыя *элемэнты*) ня былі на Ўсебеларускім Зьездзе.

Пэрсанальна былі на Зьездзе і Аляксюк і Лявіцкі, і ксёндз Гадлеўскі, але чаму іх ніхто ў Раду Зьезду не дэлегаваў — сказаць трудна. Пэўна таму, што ня мелі за сабою ніякае групы, або трымаліся сабе, быццам госьці.

Свабода прайсьці ў Раду была поўнай; „не дапусьціць" туды дэлегата нават самае найменшае групы ці партыі, прадстаўленай на Зьезьдзе, ніхто ніколі ня зьбіраўся і ня мог.

Акцыю менскага бел. „прадстаўніцтва" найлепш маглі-б высьвятліць блізка што ўсе яго дасюль жывыя і здаровыя былыя сябры, калі-б усе яны і сягоньня яшчэ хоць крыху думалі аб Беларусі, бо некаторыя з іх, як відаць, і беларусамі былі толькі на кароткі сэзон нямецкай окупацыі.

Нажаль у нас зусім ня ў модзе мэмуарыстыка, а чалавек — сьмяротны.

Пазволім сабе падыйсьці да справы Менскага Бел. „прадстаўніцтва" зусім конкрэтна і спытаемся ў беларускай моладзі:

Каго, апрача самых сябе, маглі прадстаўляць у Менску ў 1918 годзе: 1) вялікі абшарнік Раман Скірмунт, 2) дарэвалюцыйны менскі гарадзкі галава (узноўлены на сваёй цёплай пасадзе немцамі) пан Chrząstowski, 3) Тодар Вярнікоўскі, 4) Аляксюк, 5) Уласаў, 6) нябожчык Лявіцкі, 7) пан Цьвірка-Гадыцкі, 8) п. Земкевіч?

Іншых людзей заўважыць тады ў бел. „прадстаўніцтве" (на Серпухаўскай вуліцы) было трудна, хоць у хадэцкай прэсе знаходзім цьверджаньне ксяндза Гадлеўскага аб тым, што да прадстаўніцтва належалі таксама: ксёндз Гадлеўскі, Чаусаў (адвакат), Русецкі (дамаўласьнік), пратаерэй Кульчыцкі і генэрал Кандратовіч („Бел. Крыніца" № 18—1934 г., — „З бел. паліт. жыцьця ў Менску ў 1917—18 г.").

Пра ген. Кандратовіча трэба сказаць праўду, што ён выказаў свой высокі беларускі патрыятызм, зьявіўшыся ў б. губэрнатарскі дом у самы мамэнт тварэньня Народнага Сэкрэтарыяту і запрапанаваў свае услугі гэтаму першаму беларускаму ўраду. Поўны дарэвалюцыйны генэрал і інспэктар Заходняга фронту (ўжо пры бальшавіках), ён не пакінуў Беларусі, каб уцякаць на ўсход разам з расейскаю ўладаю—савецкімі камісарамі. Генэрал доўга сядзеў у Нар. Сэкрэтарыяце і шмат даў адказаў на пытаньні аб немагчымасьці збройна працівіцца нямецкай окупацыі, — ня было ніякіх на гэта сілаў.

Вечная яму памяць, Лявіцкі (Ядвігін Ш.) памёр ужо. Ды ён і не належаў да „кітоў" менскага „прадстаўніцтва".

Пра іншых сяброў прыходзіцца спытацца ў жанры Верцінскага: *„Где вы теперь?..."*

Няпраўда, быццам *„Выканаўчы Камітэт Рады Конгрэсу, а потым Рада БНР на пачатку свайго істнаваньня складаліся выключна з сяброў аднэй беларускай партыі, іменна Б. Соц. Грамады"*.

Народны социяліст, нябожчык Лявон Заяц, увесь час быў і ў Радзе Зьезду і ў яе Выканаўчым Камітэце, а пасьля Народным Сэкрэтарыяце, ніколі неналежачы да БСГ, як не належалі да яе і іншыя сябры Рады, называць якіх трудна...

Хто быў на Ўсебеларускім Зьезьдзе, той добра ведае, што ў яго Раду, з зусім аднолькавым правам, дэлегавала сваіх прадстаў-

# Даўней і цяпер.

(Гл. № 24 „Роднага Краю").

**Пасьля вайны.**

Сусьветная вайна выклікала ў жыцьці нашае беларускае вёскі вялікія зьмены. У першыя-ж дні вайны масы мужчын - беларусаў былі змабілізаваны і ўзяты да войска, а праз некалькі месяцаў ад пачатку вайны ізноў-жа цэлыя масы нашых людзей пад напорам нямецкага войска былі змушаны пакінуць свае вёскі, большую частку свайго набытку і вандраваць у далёкія краіны Расеі, у Паволжа, на Урал, і далёкую Сыбір. Так пад прымусам вельмі значная колькасьць жыхарства Заходняе Беларусі адарвалася ад родных загонаў і некалькі гадоў тулялася на аграмадных прасторах Расеі.

Ізноў-жа пэўная частка салдат-беларусаў разам з іншымі трапіла ў палон, пераважна ў Нямеччыну. Ясна, што зусім новыя абставіны, у якіх апынуліся паасобныя адзінкі беларускага сялянства, мусілі адбіцца ў першую чаргу на сьветапаглядзе нашага сялянства. Калі да вайны ў шмат якіх ціхіх кутках нашае Бацькаўшчыны большасьць жыхароў ня бачыла ў жыцьці ані разу цягніка, а жанчыны дык нават не адважваліся ехаць цягнікам пры патрэбе, то пасьля вайны такіх адзінак амаль зусім няма. Нашыя людзі пабачылі іншае жыцьцё, да якога маглі прыраўноўваць сваё дасюлешняе, у рэзультаце чаго пачалася пэўная самакрытыка, неабходная, як ведама, пры ацэнцы кожнай жыцьцёвай праявы. Хто-ж трапіў у нямецкі палон, той, што праўда, нацярпеўся гора, але разам з тым пабачыў жыцьцё шмат у чым непахожае на нашае.

Жыцьцёвая школа, якую прайшлі нашы сяляне, зараз-жа пачала даваць плады, хоць можа не заўсёды дадатнія. Даўнейшыя традыцыі, якія зьяўляліся як-бы духовай стравай для нашага селяніна, паступова занікаюць, бо-ж у новых абставінах, у якіх апынуліся нашыя бежанцы, салдаты і палонныя, ня ўсюды была магчымасьць іх прытрымоўвацца, а нават і вярнуўшыся на родныя гоні, людзі былі змушаны жыць пры іншых умовах, чымся перад вайной. Вось-жа само жыцьцё, ня горш за школу, зламала ў пэўнай меры кансэрватызм нашага сялянства. У гэтым нас пераконвае хоць-бы факт такога хуткага разросту Беларускае Грамады, факт нязвычайны ня толькі ў жыцьці нашага даваеннага сялянства, але і ў жыцьці сялянства наагул.

Адначасна з пэўнымі зьменамі ў сьветапаглядзе пачынаецца пэўны поступ і ў гаспадарцы нашага сялянства, якая яшчэ і цяпер стаіць нявысока, але ўсё-ж вышэй за даваенную гаспадарку. Каб ня было гэнага поступу, нашае сялянства пры тым самым зямельным надзеле і пры вельмі павялічаным прыросьце ядуноў, якія ня маюць магчымасьці адыходзіць на заработкі ў гарады, не магло-б пракарміцца хоць-бы і поўгалодна. Ізноў такі пераконвае ў гэтым і той факт, што сучасная наша вёска пачынае належна цаніць гаспадарчую веду, якой, нажаль, пры матар'яльнай недастачы ня можа здабыць. Характарнага даваеннага пагляду, што „як аралі ўдаўжкі, так будзем араць і далей, бо няма як араць упоперак", мусіць цяпер нідзе не спаткаеш.

Акром таго, на чужыне сярод нашага сялянства ўзбуджваецца і нацыянальная сьвядомасьць, бо-ж сярод чужынцаў нашыя людзі найлепш адчулі, што ня толькі сваёй мовай, але і спосабам думаньня ды дзеяньня, яны не пахожы на іншых. Кожны з нас, каму гэта трапілася, сярод шматнароднай мешаніны даўнейшай Расеі чамусьці адразу пазнаваў свайго чалавека, яшчэ нават не пачуўшы ад яго дарагой для кожнага з нас роднае мовы. Варта толькі ўспомніць выбары ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе, каб пераканацца, наколькі ўжо тады нашыя сяляне былі сьвядомыя нацыянальна, у працягу ўсяго некалькіх гадоў патрапілі заняніць даўнейшы тэрмін „тутэйшага" на сьвядомы тэрмін „беларуса".

Гэная сьвядомасьць нашага сялянства выявілася між іншым у масавым гарненьні да асьветы ў роднай мове ў першыя гады пасьля вайны. Сялянства само ўтрымлівала тады сотні пачатковых беларускіх школаў, некалькі прогімназіяў ператвораных з даўнейшых гарадзкіх вучылішчаў ці вышэйшых пачатковых школаў (у Глыбокім, у Ракаве, у Івенцу і шмат яшчэ дзе) а таксама некалькі беларускіх гімназіяў (у Слуцку, Вільні, Будславе, Несьвіжы, Гарадку, Наваградку, Радашкавічах, Клецку). Так пры пэўных ахвярах, як з боку беларускіх вучыцялёў, працаваўшых амаль задарма ў гэных школах, так і наагул беларускага грамадзянства павялічваецца наша вясковая інтэлігенцыя. Праўда, гэныя школы з часам ліквідуюцца дзеля розных прычынаў, як эканамічных так і палітычных аднак агульны ровень нашае вёскі значна падняўся пасьля таго, як у яе ўлілася вучнёўская моладзь. Як рэзультат гэнага бачым на нашай вёсцы ў часы добрай гаспадарчай кон'юктуры павышаны тэмп грамадзкага жыцьця—адчыняюцца бібліятэкі, закладаюцца культурна-асьветныя таварыствы, ладзяцца спэктаклі, арганізуюцца хоры і г. д. Якая-ж аграмадная розьніца між даўнейшай вёскай, калі хацелася толькі „людзьмі звацца", і пасьляваеннай нашай вёскай, у якой „буйным цьветам жыцьцё закіпела", калі людзі імкнуцца быць лепшымі за другіх, за суседзяў...

Аднак такі ўздым грамадзкага жыцьця трываў нядоўга. Зьмяніліся ўмовы жыцьця, настаў цяжкі эканамічны крызыс, пагоршыліся палітычныя абставіны, і грамадзкае жыцьцё нашае вёскі нібы замёрла, як жыцьцё ракі, скаванай зьверху лёдам. Глядзіш на раку ўзімку і, часам забыўшыся, думаеш, што ў ёй няма аніякага жыцьця. У сапраўднасьці-ж жыцьцё там ніколі не перастае і толькі закрыта ад нас лёдам. Тое-ж самае ёсьць і на нашай вёсцы. Сапраўднае яе жыцьцё ізноў схавалася ад тых вачэй, якія, гледзячы, нічога ня бачаць і, слухаючы, нічога ня чуюць.

Для кожнага-ж чуткага і ня чужога вёсцы ясна, што сучасная наша вёска далёка адышлася ўперад ад даўнейшай вёскі і што няма на сьвеце тае сілы, якая-б спыніла пачаўшаеся ў ёй імкненьне да лепшае будучыні. Можна гэнае імкненьне часова стрымаць, але ніхто ня здолее яго спыніць.

*Ст—ы.*

## 28.000 бандытаў у Манджурыі.

Паводле офіцыяльных ведамасьцяў, ня гледзячы на шмат якія карныя экспэдыцыі, на тэрыторыі Манджу-Го „працуе" цяпер 28.000 бандытаў. Яны хаваюцца ў горах або ў заросшых лесам сопках. Прамышляюць арганізацыяй чугуначных катастрофаў, начных рабункаў, захопліваньнем палонных, за якіх пасьля дамагаюцца выкупу і інш.

Вышэй прыведзеная лічба ня можа здавацца моцна павялічанаю, калі ўзяць пад увагу, што ў верасьні 1932 году ў Манджурыі налічвалася 212.000 бандытаў. Праз год лік іх паменшыўся да 66.000, а на верасень 1934 году — да 34.000.

З цяперашніх 28.000 бандытаў — 8.000 належыць да розных антыяпонскіх ды антыманджурскіх групаў; 7.000 камуністых; каля 5.000 карэйцаў. Рэшта—проста хунхузы.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

нікоў кожная, найменшая нават, група, прадстаўленая на Зьезьдзе. Трудна азначыць лік сяброў Рады Зьезду, ня маючы ў руках матар'ялаў, аднак помніцца, што Рада гэтая мела куды больш, як паўсотні чалавек.

Што выбраная на Зьезьдзе Рада яго, апрача сяброў БСГ і некаторых іншых адважных людзей, пакінула Менск з розных прычын і што пад нямецкаю окупацыяй большасьць Рады Зьезду належала да Беларускай Соцыялістычнай Грамады, дык гэта, ў вачох кожнага, хто хоча пісаць пра недалёкае нашае мінулае, павінна было-б хоць крыху паважацца: ня ўсе былі трусамі і за гэта іх у будучыні сустрэла жорсткая доля: эміграцыя, немагчымасьць мець працу, бальшавіцкая расправа, як з нацдэмамі і г. д.

Блізка ўсе, хто жывы, з былога менскага „прадстаўніцтва", ніякіх падобных злыбедаў ня знаюць і сягоньня: соцыяльная прырода іх іншая.

Зьезд цягнуўся два тыдні. Бывалі мамэнты нават і зусім вясёлыя.

Калі розныя групы, партыі і арганізацыі пачалі падаваць у прэзыдыум Зьезду (ў будынку Шляхоцкага Дому) сваіх прадстаўнікоў у Раду, дык адазваўся з глыбіні перапоўненай салі магутны голас Уласава:

— А што-ж ад аўтанамістаў-фэдэралістаў нікога не запішаце?

— А ёсьць гэткія? —пытаюцца з прэзыдыуму.

— Ёсьць! — чуецца магутны бас Уласава.

— А колькі вас? — жартуе нехта.

— Я сам, *собственной* пэрсонай,—сьмяючыся адказвае Уласаў.

— Вашае credo? — пытаюцца з прэзыдыуму ізноў.

— Гэта-ж Уласаў, рэдактар „Нашай Нівы"!—чуваць на салі.

А Уласаў гумарыстычна заяўляе:

— *Всю жизнь стремился стать буржуем, но не удалось!*

I здаецца, што Уласаў усё-ж такі папаў у Раду Зьезду. Гэта ўжо яго асабістая справа, чаму спадабалася яму быць ня ў ёй, а ў скірмунтаўскім „прадстаўніцтве".

Праўда, што „Беларускі Шлях" пісаў пра незалежнасьць. Але хто пісаў? Можа офіцыяльны і фактычны рэдактар нябожчык А. Прушынскі (Алесь Гарун)—сябра Соцыялістычнай Грамады і Выканаўчага Камітэту Рады Зьезду? Невядома. У беларускім руху шмат парадоксаў.

Дзе-ж усё-такі першы раз паўстала ідэя беларускай незалежнасьці?

Бязумоўна — на самым Усебеларускім Зьезьдзе.

Старшыня Рады Рэспублікі на эміграцыі, нябожчык П. Крэчэўскі, які напэўна меў доступ да вывезеных за граніцу актаў Усебеларускага Зьезду, напісаў аб гэтым так:

*На Зьезьдзе змагаліся дзьве праціўлежныя групы—Масквофільская, на чале з Членамі Петраградскага Абласнога Камітэту і Самастійно-незалежніцкая. За першай групай ішло Вітэбскае і Магілёўскае зямлячэства, за другой групай — Гродзенскае, Віленскае, Менскае і Смаленскае. Групу Абласьнікоў патаемна падтрымлівалі і бальшэвікі. Калі бальшавікі абачылі, што большасьць Зьезда стаіць за самастойную рэспубліку, вырашылі Зьезд разагнаць сілай* („Замежная Беларусь", Прага 1926, бач. на 52).

Так яно і было бязумоўна.

Помніцца—зусім ужо пад канец Зьезду, у адзін з апошніх яго дзён, калі ўсім абрыдла барацьба з масквафіламі-магілёўцамі, аўтору гэтых радкоў Язэп Варонка сказаў выразна, што ўсяе гэтае ерунды даволі і што ён ужо цэлы тыдзень носіць у партфэлі унівэрсал аб незалежнасьці.

Хто ведае? Ці ня прыняў-бы гэты унівэрсал Зьезд (хоць-бы простай большасьцю), калі-б ня быў разагнаны?.

Нічога дзіўнага тут ня было-б, бо і самі петраградзкія камісары, на чале з Леніным, не сароміліся грымець тады лёзунгам „*о самоопределеніи народов вплоть до отделенія* . Украіна ад іх ужо адлучылася. Фактычна адлучалася і Беларусь. Бо нашто ж было агарод гарадзіць --склікаць аж Усебеларускі Зьезд?

Помніцца і іншае, яшчэ цікавейшае, здарэньне.

Уночы на 21 лютага 1918 году твырыўся Народны Сэкрэтарыят. Немцы былі яшчэ вельмі далёка. Запрошаны ў сябры Народнага Сэкрэтарыяту расейскі эс-эр Злобін прыблізна гэткімі словамі прапануе:

— *Положеніе серьезное. Быть может следовало-бы провозгласить независимость Белоруссіи?...*

Велікарос Злобін ведаў, што яго прапазыцыя падае на гатовы грунт. Але час быў гарачы. Фактычнае будаваньне беларускай незалежнасьці было важнейшым за ўсякія дэкларацыі.

А што-ж панове з будучага „прадстаўніцтва", якое радзілася... з прыходам немцаў? Што яны рабілі ў той самы час?

Аляксюк забягаў раз у Народны Сэкрэтарыят, прапанаваў увясьці ў Раду Усеб. Зьезду прадстаўнікоў ня то „Rady Polskiej ziemi Mińskiej", ня то саюзу абшарнікаў, у кожным выпадку „зуброў". Яго супакоілі: прадстаўнік ППС гр-н П. ужо ёсьць у Вык. Камітэце і вітае яго.

Пан Скірмунт рыхтаваўся недзе паціху... прывітаць першага-лепшага нямецка лейтэнанта з яго войскам, што яму хутка і ўдалося зрабіць у асысьце п. Аляксюка.

I гэта зусім зразумела.

Нямецкі штых найлепш страхаваў абшарніцкія лятыфундыі ня толькі ад бальшавізму, але і ад беларускага соцыялізму.

Пазьней (ужо ўвайшоўшы ў Раду Рэспублікі з сваім „прадстаўніцтвам") п. Скірмунт „прывітаў" тэлеграмаю імпэратара Вільгэльма, за якую самазабойча галасавала і часьць Бел. Соцыялістычнай Грамады.

Тут ужо менскае „прадстаўніцтва" не аб сувэрэннасьці Беларусі думала, а аб... прысланеньні да Нямеччыны. Хуткая зьмена ідэяў.

Вось як гісторыя рабілася, а як іначай яна часам пішацца!

*Жывы Сьведка.*

## У Чэхаславацкай сталіцы 40.539 „лішніх" дзяўчат.

Паводле перапісі 1930 году, ў Празе было 848.823 жыхары (Цяпер іх ужо каля 900.000 душ). З гэтага ліку—мужчын 406.194 чалавекі і жанчын 442.629. Значыцца, жанчын болей на 36.435 душ. З агульнага ліку праскіх жыхароў— мужчын, што маюць больш як 21 год, — 292.695 чалавек, а жанчын у тым самым веку 328.146. Гэткім чынам, колькасьць жанчын у гэтым веку перавышае ў Празе колькасьць мужчын на 85.456 чал.

З ліку 292.690 мужчын у веку, большым за 21 год, у Празе ёсьць 159.845 мужчын веку, прыдатнага да жаніцьбы. А жанчын—200.384.

Гэтая статыстыка паказвае, што ў Празе ёсьць на 40.538 дзяўчат больш, як жаніхоў.

# Гаспадарчы аддзел.

### Збор і перахоўваньне бульбы.

На сёлетні збор бульбы гаспадары нашы павінны зьвярнуць увагу. Справа ў тым, што лета ў гэтым годзе было даждлівае, а пры даждлівым леце да бульбы прычапляюцца розныя хваробы, дзякуючы чаму гаспадар церпіць вялікія страты. Праўда забязсьпечыць сябе ад стратаў наагул гаспадар ня можа, бо бульба ў часе перахоўваньня жыве, знача дыхае. Пры дыханьні-ж у большай ці меншай меры расходуецца арганічны матар'ял.

Здаровая і добра перахоўваная бульба траціць працягам зімы прыблізна дзесятую частку свае першапачатковае вагі. Страта, як бачым, досыць вялікая. Калі-ж у дадатак да таго будзе перахоўвацца бульба ня зусім здаровая, або неадпаведным спосабам, то гэтыя страты могуць падняцца да большых разьмераў.

Заўважана, што кепска перахоўваецца бульба і тады, калі ёй не даюць належна высьпець. Хаця ёсьць шмат аўтараў, якія радзяць на насеньне ўжываць якраз не цалком дасьпеўшую бульбу. Паводле гэтых аўтараў такая бульба дае, быццам, большыя ўраджаі. Аднак у нашых умовах на гэтую акалічнасьць асаблівае ўвагі звaрочваць ня прыходзіцца, бо, як мы казалі, недасьпеўшую бульбу цяжка перахаваць. Сьпеласьць бульбы пазнаецца па наступным прыметам: бульбянік правідлова абмірае, а скурка на бульбінах пры націску пальцам не адстае. Ня можна таксама пазьніцца з выбіраньнем бульбы, бо яна вельмі баіцца марозу. Пры позных сартох дасьпяваньне можна прысьпяшыць скошваньнем бульбяніку.

Падчас збору бульбы, трэба яе адразу-ж сартаваць. Складаць бульбу ў месца перахову можна пасьля таго, як яна добра „выпацее“, бо сьвежа выкапаная бульба мае ў сабе залішня вільгаці і дзеля гэтага хутка псуецца. Месцы перахову павінны быць халоднымі, сухімі і цёмнымі.

Тэмпэратура, пры якой бульба дае найменшыя страты вагаецца паміж + 2 і + 8⁰ Цэльзія.

Перахоўваецца ў нас пераважна бульба ў капцох, паграбох і ямах. Найлепшым з усіх гэтых спосабаў ёсьць перахоўваньне бульбы ў капцох. Некаторыя цьвердзяць, што складаць у капцох можна толькі вялікія колькасьці бульбы, але гэта няпраўда. Перахоўваецца дужа добра бульба закапцаваная ў абыякой колькасьці, калі толькі гэтае капцаваньне робіцца належаным спосабам. Ставіць капец трэба ў сухім месцы з добра прапушчальнай глебай. Шырыня капца не павінна быць большай аднаго з палавінай мэтра, а вышыня ня болей аднаго мэтра.

Месца, дзе, мае быць насыпаны капец можа быць роўным, або мерна заглыбленым. Капец спачатку трэба прыкрыць тонкім пластом саломы, а пасьля на салому насыпаць пласт зямлі грубінёю ў 20 цэнтымэтраў. Верх капца ня можна адразу прысыпаць зямлёю, а трэба яго пакінуць адкрытым на нейкі час, каб бульба мела магчымасьць „выпацець“. Каб у капец не пападала дажджавая вада, трэба верх яго перад дажджом прыкрываць матамі, дошкамі, ці чым-колечы іншым. Пасьля таго, як бульба ў капцы добра „выпацее“, трэба капец перад самымі маразамі яшчэ раз добра прыкрыць саломай або бульбянікам ці ялаўцом, які адганяе мышэй, а наверх ізноў насыпаць пласт зямлі, але значна грубейшы ад папярэдняга (каля 30—40 цэнтым.)

Каб можна было рэгуляваць у капцы цяпло і вільгаць, карысна зрабіць на хрыбце капца прадушыну, якая робіцца так: пасьля першага прыкрыцьця бульбы саломаю, на хрыбет капца кладзецца жэрдка, паверх якое даецца яшчэ салома, а пасьля ўвесь капец абсыпаецца зямлёю. Калі ўсё гэта зроблена жэрдка выймаецца, а на яе месцы астаецца дзіра, праз якую і выходзіць з капца вільготнае паветра. Перад маразамі капец яшчэ раз пакрываецца саломай і зямлёю а прадушына з абодвых бакоў затыкаецца саломай. Зімою, калі патрэба, прадушыну можна адчыніць і капец праветрыць.

Значна горш перахоўваецца бульба ў паграбох (склепах), бо трудна ў іх захаваць аднолькавую тэмпэратуру. Пограб трэба добра ачысьціць, выбяліць вапнай і абкурыць серкай, бо пры спаленьні серкі вытвараюцца газы, якія нішчаць розныя гнілатворныя бактэрыі і наастатак добра выветрыць.

Найгорш перахоўваецца бульба ў ямах. Тут бульба вельмі лёгка саграваецца і церпіць часта ад надмернай вільгаці. Апрача таго, да так складжанай бульбы лёгка можа падцячы грунтовая вада.

Ёсьць яшчэ шмат іншых спосабаў, але ўсе яны вымагаюць шмат больш працы і выдаткаў. Ня будзе лішнім тут адзначыць, што бульба вельмі добра перахоўваецца ў сухім тарфяным або вугальным парашку. Досьледы паказалі, што пры такім перахоўваньні атрымоўваюцца найменшыя страты.

## Проціўрадовая змова ў Баўгарыі.

Баўгарскі прэм'ер-міністар Тошэў заявіў прэсе аб увядзеньні выняткавага палажэньня, дзеля таго, што выкрыта змова былых сяброў арганізацыі „Звено“. Адбылося шмат арыштаў. У ліку арыштаваных б. міністар фінансаў Тодараў. Апрача „Звена“ да змовы належалі сябры левае сялянскае групы „Пладно“. Урадовы камунікат цьвердзіць, што ў Баўгарыю ўварваўся на чале групы эмігрантаў павадыр камуністычных сялян Узуноў. Змова тварылася дзеля захапленьня ўлады і зьмены дзяржаўнага ладу. Урад апанаваў палажэньне. У Софіі, як і па ўсёй краіне, спакойна. Арыштаваны былы прэм'ер Кімон Георгіеў.

## Чуткі аб англа-францускім саюзе

Паводле неофіцыяльных вестак з Жэнэвы Францыя і Англія быццам у бліжэйшых днях заключылі ваенны саюз, скіраваны выключна да абароны граніц Францыі ад Нямеччыны. Дагавор гэты не прадбачыць выступленьня Англіі ў абароне Францыі ўва ўсіх іншых прыпадках, гэта знача і ў прыпадку, калі Францыя выступіць у абарону сваіх саюзьнікаў у Усходняй Эўропе. Такім чынам аўтаматычна вылучаецца магчымасьць абароны Аўстрыі.

## Англія прапануе Гішпаніі саюз

Паводле вестак з Мадрыту, ангельскі ўрад зьвярнуўся да гішпанскага ўраду з просьбай дазволіць ангельскім ваенным караблём карыстацца прыпынішчам у гішпанскіх портах.

Учора ў Гібралтары адбыліся манэўры ангельскага марскога і паветранага флёту.

## Экстраннае паседжаньне II інтэрн.

Выканаўчае бюро II інтэрнацыяналу тэлеграфічна склікала ўсіх сваіх сяброў на паседжаньне, на якім будзе абгаварывацца пытаньне аб абвешчаньні байкоту ўсім тым, хто будзе імкнуцца падтрымліваць Італію ў яе вайне з Абісініяй.

## Злучаныя Штаты Амэрыкі адмовілі Італіі ў пазычцы

Амэрыканскія фінансісты адмовілі Італіі ўдзяліць крэдыту на пакупку амэрыканскіх тавараў. У той-жа самы час экспартовыя і імпартовыя банкі адмовіліся памагаць тым амэрыканскім экспортэрам, якія хочуць вывазіць тавары ў Італію.

## Земляробская палітыка на 1935-6 год.

Рамы дзяржаўнай земляробскай палітыкі на 1935-36 гаспадарчы год, установленыя эканамічным камітэтам Міністэрства Гандлю і Пр. шмат у чым розьняцца ад рамаў папярэдніх гадоў. Зьмена земляробскай палітыкі спрыяе ў першую чаргу жывёлагадоўлі. Пастаноўлена падвысіць прызначаныя дагэтуль сумы для прэм'яваньня экспартовых прадуктаў жывёлагадоўлі.

Калі прыняць яшчэ пад увагу зарысоўваючыся на заграніцных рынках карысныя абставіны для прадуктаў жывёлагадоўлі, то можна сказаць, што ў гэтым гаспадарчым годзе гадоўля жывёлы павінна добра аплаціцца. Гэтыя зьмены, бязумоўна, карысныя для дробных гаспадароў, якія маюць усе дадзеныя для прадуктыўнага вядзеньня жывёлагадоўлі, буйным-жа выгаднейзаймацца гаспадаркай збажовай.

Новы курс ў земляроб. палітыцы ўносіць пэўныя зьмены ў гандлі збожам і іншымі расьліннымі прадуктамі. Перш за усё ў гэтым годзе цэны на збожа будуць галоўным чынам залежаць ад сьвятовага рынку і ніякіх штучных уплываў на падняцьце іх болей рабіцца ня будзе. Зварот мытных аплатаў пры вывазе збожа заграніцу застанецца такім, як быў і раней. Апрача таго гэты зварот мытных аплатаў датычыць ня толькі збожа, але таксама грэчкі і стручковых расьлінаў. У гэтым годзе будуць вызначацца прэміі і для вывазу бульбяных пер态твораў, сьпірту і алейных насеньняў.

Вялікія зьмены сёлета зроблены ў справе земляробскага крэдыту. Мае быць уведзены закладны і залічковы крэдыт у суме 50 мільёнаў злотых і, апрача таго, вялічыня проценту ня мае перавышаць 3 проц. гадавых. Пры вызначэньні крэдыту ня будзе ніякіх адлічак, апрача залеглых ратаў тых-жа крэдытаў. Крэдыты будуць вызначацца ня толькі пад заклад збожа, але таксама і стручковых, грэчкі і і алейных насеньняў. Апрача таго, устаноўлены крэдыты ў суме 10 мільёнаў злотых для гандлю збожам; пасьля 5 мільёнаў злотых крэдыту для алеярняў на закуп краёвых алейных насеньняў.

Далей вызначана 15 мільёнаў на тэхнічныя устройствы для перапрацоўкі і збыту земляробскіх артыкулаў.

Апрача ўсяго вышэйпададзенага, пастаноўлена апрацаваць распараджэньне, якое-б зьменшыла цяжары, якія нясуць земляробы на карысьць Дзяржаўнага скарбу і іншых публічна-праўных інстытуцыяў.

Як мы ўжо казалі для дробнага земляроба найбольш карысным з гэтых зьменаў зьяўляецца падняцьце даходнасьці жывёлагадоўлі і паменшаньне цяжараў на карысьць Дзяржаўнага скарбу.

Было-б вельмі пажадана, каб нашыя сяляне пастараліся яшчэ скарыстаць з выгаднага дзяржаўнага крэдыту.

*X.*



*МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.*

## У хіраманта-графолёга.

Штукар ён, браткі вы мае, далібог!

На дзьверах знаёмага отэлю павесіў рэкляму:

„Праездам *на тры дні* затрымаўся вядомы ашмянскі графо-астролёг і хірамант Авaднеўскі“...

Рэкляма гэта ўжо добрых тры месяцы кідаецца мне ў вочы, а сам Аваднеўскі гадоў з дзесяць жыве ў Вільні.

Жыве і варожыць. На руку вам паглядзіць, характар пісьма вашага папросіць, сэктанскую біблію,—маленечкую гэткую, кішанковую, — раскрые — туды паглядзіць, увесь падрыгвае, вочы заплюшчвае, як у трансе ды... стрыжэ сабе з лёгкавернай публікі па залатоўцы за візыт, ня менш.

Я, па старой сваёй знаёмасьці з Аваднеўскім, хачу як-небудзь за 50 грошай „веду“ яго таямнічую скарыстаць. Не даецца. Нэрвы, кажа, дорага каштуюць, а і отэль — не вакзал: дарма не пасядзіш у пакоі — монэту гані.

— Ды, што ты, кажу, ня можаш безработнаму беларусу паўзлотага дараваць? Мне адно толькі пытаньне...

— А якое? — пытаецца.

— Ну, вось зіма, пасьля восені, надойдзе. Аж страшна! Як жыць? Хачу спрабаваць білет лётэрэйны купіць. Дык парадзь, які нумар, калі ты гэткі чараўнік?...

— Давай залатоўку, — кажа Аваднеўскі, — параджу, выйграеш мільён...

— Як выйграю, тады 50 злотых табе дам ды яшчэ пісьмо з падзякаю, для рэкламы табе, разумееш?!

— Э, гэта пасьля, цераз два месяцы. А цяпер—нэрвы. Выбачай, браце! Бачыш, кліенты стукаюцца ў дзьверы.

Торг наш цягнуўся мінут пятнаццаць. Запраўды ў дзьверы ўжо трэці раз нехта пастукаў. А я ўсё таргаваўся. Злосьць узяла: не хірамант, а проста буржуй нейкі зрабіўся з Аваднеўскага.

За чацьвёртым разам хірамантаў грум прачыніў дзьверы з калідору і заявіў:

— Кліенты чакаюць.

— Цераз пяць мінут, — спакойна адказаў груму Аваднеўскі,— бачыце, я заняты.

Мне ўжо абрыдла таргавацца, але рады ніякай ня было: пяцьдзесят грошай толькі ў кішонцы муляла.

— Лаўкач ты, браце, — кажу Аваднеўскаму, — лаўкач, а не хірамант, вось што! Калі-б ты запраўды ўсё ведаў, а ня плёў, што на язык узьлезе, дык ты сам шчасьлівы нумар з лётэрэі купіў-бы і адразу быў-бы з цябе мільянэр...

— Кінь жарты, дружа,—супакойвае мяне Аваднеўскі,—самому сабе я згадаць не магу, вось у чым штука...

— Бо сам сабе і залатоўкі ты лішняй даць ня можаш — гэта таксама штука!..

І я сярдзіта бразнуў дзьвярыма, не разьвітаўшыся нават з Аваднеўскім.

На калідор, сьледам за мною, даляцелі хірамантавы словы:

— І чаго злаваць? Прыходзь, як будзеш маць адзін злоты, толькі адзін злоты! Не пашкадуеш пасьля.

У пачакальні сядзеў нейкі малады чалавек і дзьве дзяўчыны асобна ад яго.

Хірамантаў грум запрашаў:

— Чыя чарга? Здаецца ваша, пане? Калі ласка.

Я кінуў вокам на дзяўчат. „Мусі кухаркі? Маюць лішнія залатоўкі, — падумалася мне, — не раўня нашаму брату, беларускаму пісьменьніку“...

Адзін раз, каб яго ліха, завярнула нешта ў галаве пайсьці да хіраманта і гэтак няўдачна:

Ня маеш залатоукі, дык і ня лезь...

*Паупэр.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.